*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***



# НАША СЛОВА




**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** **№ 20(405)** **19 ТРАЎНЯ 1999 г.**

## Рэспубліканская рада ТБМ

14 траўня ў сядзібе ТБМ прайшло чарговае паседжанне Рэспубліканскай Рады ТБМ, у яе працы прынялі ўдзел 49 сяброў. Вёў паседжанне старшыня ТБМ спадар А.Трусаў. За час паседжанняў было прапрацавана 10 пытанняў

Першым было пытанне аб перарэгістрацыі суполак ТБМ. Камісія спадароў Палсцюка, Лавіцкага высветліла 66 суполак дзеяздольных, астатнія не прадаставілі неабходных дакументаў для рэгістрацыі. Радай прынята рашэнне 66 суполак зарэгістраваць, а ўсім астатнім да 10 чэрвеня здаць неабходныя для рэгістрацыі дакументы, каб даць магчымасць выправіць становішча.

Другім пытаннеем Рада разгледзела прапанову сп. В.Вячоркі аб надрукаванні ў "НС" унармаванага правапісу "тарашкевіцы", зацверджанага на Пражскай канферэнцыі, ксёндз Завальнюк заўважыў, што касцёл ужо перайшоў на "тарашкевіцу", на ёй ужо выдадзены 10 тысяч малітоўнікаў, на яе пераведзены ўсе службы і заўваг не было. Так, што ў народзе гэты правапіс пашыраецца. Пасля дыскусіі на гэту тэму Радай было прынята рашэнне надрукаваць у "НС" унармаваны правапіс "тарашкевіцы".Рада ўвяла ў склад рэдкалегіі "Нашага слова" Алеся Гурыновіча.

На трэцім пытанні слова ўзяў дацэнт БДПА, кандыдат навук сп. Шастаковіч. Паколькі методыка выкладання беларускай мовы для студэнтаў ВНУ і аспірантаў вядзецца на стандартах сярэдняй школы, ён распрацаваў метад выкладання мовы ў ВНУ і аспірантаў. Па тэме выступіў сп. Цыхун, які зачытаў сваю крытычную рэцэнзію на гэтую методыку. Рада вырашыла рэкамендаваць дапрацаваць методыку сп.Шастаковіча, надрукаваць яе ў "НС" і даслаць гэтую праграму міністру адукацыі В.Стражаву для выкарыстання ў ВНУ, а таксама Прэзідэнту Акадэміі навук сп.Вайтовічу, які сваім рашэннем адмяніў іспыт па беларускай мове для аспірантаў.

Чацвёртым пытаннем было аб светкаванні 10-х угодкаў ТБМ. А.Трусаў прапанаваў 27 чэрвеня правесці паседжанне Рады, а пасля яе ўрачыстую культурную праграму.

Па пятым пытанні было абмеркаванне памераў складак, якія і былі зацверджаны Радай аднагалосна.

Шостае пытанне было аб правядзенні Ўстаноўчай канферэнцыі Менскай абласной арганізацыі ТБМ. Было прынята рашэнне правесці яе 20 чэрвеня.

Сёмым пытаннем было аб зменах у складзе ТБМ. У склад Рады і Сакратарыята былі ўключаны чатыры новых сябры, гэта тры дзяўчыны з Беларускага універсітэта культуры і інжынер Алесь Піткевіч.

Восьмым пытаннем Рада абрала Ірыну Сяргееўну Марачкіну адказным сакратаром ТБМ.

Па дзевятым пытанні аб працы камісіяў ТБМ выступіла Л.Дзіцэвіч. Рада вырашыла з 10-ці існаваўшых пакінуць 9-ць зліўшы камісію культуры мовы і камісію па ўдасканальванню правапісу ў адну. Такім чынам зараз існуюць камісіі: 1) арганізацыйна-прапагандысцкая, узначальванае сп.Кузьміч. 2) Адукацыйная — сп. Майсеня. 3) Тэрміналагічная. 4) Па культуры мовы і ўдасканаленню правапісу. 5) Па моўных скарбах. 6) Па тапаніміцы і гістарычнай сімволіцы, адказны сп.Грыцкевіч. 7) Па зрокавым і гукавым афармленні жыццёвага асяроддзя адказны сп.У.Содаль. 8) Па сувязях за межамі краіны, спадарыня Дзіцэвіч. 9) Выдавецкая камісія, адказны сп. Санько.

Як адзначыў старшыня ТБМ сп.Трусаў Рада прайшла арганізавана і на добрым узроўні.

Пасля рады для журналістаў дадзена прэс-канферэнцыя, на якой спадарыня Дзіцэвіч і спадар Трусаў далі інфармацыю аб выніках Рады і адказалі на пытанні.

*Алесь Гурыновіч.*

## Моўныя дасягненні ў галіне аб'яднання

Старшыня дзяржаўнага камітэта па друку Міхаіл Падгайны на прэс-канферэнцыі з нагоды дня Друку распавядаў пра новыя дасягненні на шляху стварэння Саюза Беларусі і Расеі. На маскоўскіх вакзалах распачаўся эксперымент па продажу беларускіх газетаў. Сярод чатырох дзяржаўных газетаў, што можна будзе запытаць у вакзальных шапіках, толькі адна выключна беларускамоўная – "Звязда".

У цывілізаваных краінах у газетных шапіках можна набыць усялякія рознамоўныя выданні і ніхто гэта не запісвае на карысць нейкага аб'яднання.

*Антон Макей.*

**Пастанова Рады ТБМ**

## Аб памерах складак сяброў ТБМ на 1999 год

І.Устанавіць наступныя памеры абавязковых штогадовых складак для сяброў ТБМ:

1. Для грамадзян Беларусі:

а) для працуючых – 50.000 руб. на год

б) для беспрацоўных, студэнтаў, пенсіянераў – 20.000 руб. на год

в) навучэнцы – 5.000 руб. на год

2. Для грамадзян Расеі – 5 расейскіх руб.

3. Для грамадзян іншых краін – 1 $.

II. Улічваючы цяжкае матэрыяльнае становішча ТБМ рэкамендаваць усім сябрам ТБМ заплаціць складкі за 1999 год да канца чэрвеня бягучага года і арганізаваць штомесячны збор дабраахвотных ахвяраванняў на дзейнасць ТБМ.

**Пастанова Рады ТБМ**

## Аб правядзенні Ўстаноўчай канферэнцыі ТБМ Менскай вобласці і чарговай Менскай гарадской канферэнцыі ТБМ

Рада пастанаўляе:

1. Склікаць устаноўчую абласную канферэнцыю ТБМ 20 чэрвеня 1999 года ў Менску.

2. У сувязі са з'яўленнем у Менску значнай колькасці новых суполак ТБМ, прадстаўнікі якіх не маглі прысутнічаць на апошняй Менскай гарадской канферэнцыі, правесці чарговую Менскую гарадскую канферэнцыю ТБМ 26 верасня 1999 года.

3. Устанавіць наступныя нормы прадстаўніцтва:

— ад суполкі, дзе налічваецца не больш за 15 чалавек – 1 дэлегат;

— 30 чалавек — 2 дэлегаты;

— 50 і болей сяброў ТБМ – 3 дэлегаты.

4. Правесці вылучэнне дэлегатаў на Менскую абласную канферэнцыю да 10 чэрвеня 1999 года, на Менскую гарадскую канферэнцыю да 20 верасня.

Пратаколы аб вылучэнні дэлегатаў і спісы сяброў суполак накіроўваць у сядзібу ТБМ па адрасу 220005, г.Менск, вул.Румянцава, 13.

## Бомба у ТБМ

11 траўня больш за дзесятак людзей у плямістай уніформе і цывільным увайшлі ў сядзібу ТБМ не са слязьмі пакаяння на вачах запісацца у Таварыства - не, шукалі бомбу. За час шукання бомбы ў офіс найшло народу чалавек 30. Калі прыехалі тэлевізійшчыкі начале з Юрыем Хашчавацкім, то апранутыя ў цывільнае, якія зайходзілі разам з апранутымі ва ўніформу раптам зніклі. Прыкладна праз гадзіну пошукаў бомба была не знойдзена, пра што быў складзены адпаведны пратакол. Як сказаў старшыня ТБМ спадар Трусаў - "тут самай галоўнай бомбай для ўладаў з'яўляецца беларуская мова".

*Алесь Гурыновіч.*

## Радыёчыноўнік супраць "спадара"

Падчас святкавання дня радыё і тэлебачання, радыёчыноўнік камітэта па радыё і тэлебачанні адказваючы на пытанні па тэлефону жывой лініі заявіў, што ён асабіста забараніў на першым канале карыстацца словамі "спадар", "спадарыня" і гаварыць на тарашкевіцы. Дзяржаўнае радыё будзе інфармаваць народ на нармальнай "мове". На ангельскія песні выдзяляецца паўгадзіны, а найбольш будуць гучаць "аттечественные" і беларускамоўныя. У сувязі з апошнім незразумелым застаецца грамадзянства "гражданина, товарища, амиго..." Ядранцава, калі, як вынікае з яго слоў, беларускамоўныя песні застаюцца па за айчыннымі.

*Алесь Гурыновіч.*

Мінскі гарадскі выканаўчы камітэт
№ 3.1189 от 06.05.1999
от 02.04.99 № 189, 190

Таварыства беларускай
мовы імя Францішка Скарыны
220005 г.Мінск,
вул.Румянцава, 13

У Мінскім гарадскім выканаўчым камітэце разгледжана Ваша заява аб правядзенні пікетавання з мэтай агітацыі за беларускамоўную адукацыю, прапаганды стварэння Нацыянальнага ўніверсітэта.

Згодна Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, а таксама ў адпаведнасці з Законам Рэспублікі Беларусь " Аб сходах, мітынгах, вулічных шэсцях, дэманстрацыях і пікетаванні" Вы ўправе правесці 25 мая 1999 года з 17.00 да 19.00 пікетаванні дзвюма групамі з колькасцю ўдзельнікаў да 50 чалавек на плошчы Я.Коласа і ў Міхайлаўскім скверы.

Дакладныя месцы правядзення мерапрыемстваў неабходна ўзгадніць з ГУУС Мінгарвыканкама.

Разам з тым узгадваем, што захаванне грамадскага парадку і дзейнага заканадаўства ўдзельнікамі мерапрыемстваў забяспечваюць іх арганізатары, і што за парушэнне парадку арганізацыі і правядзення сходаў, мітынгаў, вулічных шэсцяў, дэманстрацый і пікетавання прадугледжана адказнасць у адпаведнасці з дзейным заканадаўствам.

*Намеснік старшыні выканкама* *В.В. Чыкін*

## Суполка ТБМ у Налібоках

30 красавіка ў Налібоцкай сельскай бібліятэцы адбыўся сход прыхільнікаў беларускай мовы. На ім было прынята рашэнне стварыць суполку Таварыства беларускай мовы. З дзесяці прысутных восем адразу падалі адпаведныя заявы па ўступленню ў ТБМ. У асноўным гэта моладзь, трое – вучні Налібоцкай СШ. Не абышлося і без спробаў перашкодзіць патрыятычным паімкненням з боку аднаго з супрацоўнікаў Дома культуры. Але суполка годна выйшла са створанай ім сітуацыі, а "особо бдительный" служка – за дзверы бібліятэкі.

На сходзе,азнаёміўшыся са Статутам ТБМ, была дадзена адзнака дзейнасці Стаўбцоўскай раённай арганізацыі ТБМ і намечаны кірункі дзейнасці створанай суполкі. А для гэтага ёсць добрыя падставы і стаўленне кіраўніцтва Дома культуры, якое дазволіла праводзіць мерапрыемствы, якія будуць ладзіць сябры Таварыства. Сярод іх: сустрэчы з пісьменнікамі, семінары, канцэрты і г.д. На сваё першае святочнае пасяджанне з нагоды 10-годдзя ТБМ мы плануем запрасіць гасцей з Менску, барда В.Шалкевіча, пісьменніка У.Арлова. Гарантуецца, што на такі сход прыйдзе не менш сотні гледачоў. Мяркуецца такое мерапрыемства правесці ў выглядзе шоў Беларушчыны з удзелам дыскатэкі.

*Зміцер Гурневіч,*
*старшыня суполкі ТБМ в.Налібокі.*

## Берасцейская гарадская арганізацыя ТБМ аднавіла сваю дзейнасць

10 траўня 1999 года адбыўся сход гарадской арганізацыі ТБМ г.Берасця, якая зараз налічвае 30 сяброў. Сярод прысутных былі студэнты і выкладчыкі ВНУ, настаўнікі і вучні гарадскіх школ, падстаўнікі грамадскіх рухаў і партый. На сходзе выступіў старшыня ТБМ Алег Трусаў, які расказаў пра дзейнасць ТБМ на сённяшнім этапе, яго структуры і метады барацьбы за захаванне беларускай мовы, гісторыі і культуры на Берасцейшчыне. Потым ён уручыў білеты і значкі новым сябрам ТБМ і раздаў прысутным апошнія нумары "Нашага слова".

У спрэчках выступілі сябры ТБМ якія заклікалі аднавіць дзейнасць суполак Таварыства ў школах і гімназіях г. Берасця, а таксама стварыць арганізацыі ТБМ у Берасцейскім раёне, г. Белаазёрску і Жабінцы. Школьныя настаўнікі прасілі надрукаваць у "Нашым слове" беларускамоўныя сцэнары правядзення выпускных баляў і святкавання 1 верасня ў школах, бо ў гэтым зараз ёсць пільная патрэба.

Новым кіраўніком Берасцейскай гарадской арганізацыі была абрана Зоя Пятроўна Мельнікава, кандыдат філалагічных навук, дацэнт Берасцейскага дзяржаўнага універсітэта.

№ 20(405) 19 ТРАЎНЯ 1999 г. наша СЛОВА

Віктар Астрога

# БЕЛАРУСКІ ЛЕКСІКОН ВАЙСКОВАЙ УНІФОРМЫ І РЫШТУНКУ

Амаль 200 апошніх гадоў беларускі народ быў пазбаўлены свайго войска, свайго абаронцы. За гэты доўгі перыяд каму толькі не мусілі служыць беларускія хлопцы – расейцам, палякам, летувісам, немцам ... З цягам часу сціраліся ў народнай памяці свае беларускія "вайсковыя словы". І толькі напачатку нашага стагоддзя былі распачатыя тэрміналагічныя доследы ў вайсковай сферы энтузіястамі з Беларускай Вайсковай Камісіі (БВК)., Беларускага Асобнага Батальёна ў Летуве, Інбелкульта, Аб'яднанай Беларускай Вайсковай Школы. Вялізную працу пачалі адраджэнцы нацыянальнага войска. Але, нажаль, гісторыя не дала ім дастатковага часу.

І вось напрыканцы XX стагоддзя, зноў паўстала пытанне адраджэння нашай вайсковай тэрміналогіі ў самых розных яе галінах. Дзякуючы напрацоўкам М. Грыгор'ева, М.Крыўко, В. Раманцэвіча, С.Судніка, С.Чыслава і іншых, мы маем зараз магчымасць уявіць багацце беларускай вайсковай лексікі, карані якой сягаюць у сівую мінуўшчыну. Аднак праца ў гэтым кірунку яшчэ далёка не скончана. Некаторыя сферы вайсковай дзейнасці застаюцца малавывучанымі ў тэрміналагічным плане. Адным з гэтых раздзелаў з'яўляецца "вайсковая ўніформа і рыштунак". Аўтар кароткага папулярнага "Лексікону", які прадстаўлены да вашай ўвагі, на падставе аналізу існуючых распрацовак, прапануе каля 150 тэрмінаў ў галіне вайсковай ўніформы і рыштунку XX стагоддзя. Да кожнага слова дадаецца вызначэнне і тамака, дзе патрэбна, кароткая гістарычная даведка, прыклад ужывання і малюнак.

— А –

**АБЛАВУХА** — зімовая шапка-вушанка з натуральнага або штучнага футра. Сучасная беларуская вайсковая аблавуха – савецкая спадчына і па свайму крою падобна на шапку ўзору 1940 г. Мае шэра-сіні колер. Аблавуха ад палкоўніка і вышэй – з



цёмна-шэрага баранкавага футра.

**АБЛЯМОЎКА** – каляровы кант па берагах наплечніка, каўнера, манкетаў, кляпаў мундзіра, фуражкі і інш. Уваходзіць у склад вылогаў. Сустракалася ва ўніформе БВК: у пяхоце – чорнага колеру, штабных і тэхнічных падраздзяленях – чырвонага, конніцы – белага. У сучасным беларускім войску – чырвоная, акрамя вайскова-паветраных, мабільных сілаў і камандас, дзе блакітная.

**АБРУЧ** – металёвае кола для сувязі дзягаў ў палявым рыштунку.

**АБШЛАГ** – адварот на рукавах ці грудзях мундзіра, шыняля і інш. Уваходзіць у склад вылогаў.

**АДЗНАКА НАГРУДЗЕВАЯ** – знак выкананы ў метале, на тканіне. Азначае пэўныя ўзроўні класнасці (майстэрства), вайсковую спецыяльнасць, дасягненні ў спартовай падрыхтоўцы, прыналежнасць да пэўнай вайсковай часткі, заканчэн-





не навучальнай ўстановы і інш.

**АКРУТКІ** – даўгія і шырокія пасы тканіны (чорнага ці зялёнага колераў), якімі абкручвалі галёнкі ад чаравіка да каленаў паверх нагавіцаў. Гл.Крагі.

**АКСЕЛЬБАНТ** – ( ад нямецк. Achselband – плячавая стужка) плецяны з залатых, срэбных, каляровых нітак матуз з металёвымі наканечнікамі. Матузы прышпільваюцца да правага пляча пад наплечнік на мундзір Складаецца з: 1.доўгага пляцяння; 2.кароткага пляцення; 3.кутаса з фігурнымі наканечнікамі – мундштукамі. У сучасным беларускім войску А. носяць удзельнікі парадаў, асабовы склад ганаровай варты. У 1-й палове 90-х г.г.



–ён быў срабрысты, з 2-й паловы – залацісты.

**АНУЧА** – кавалак тканіны для акруткі ног замест ці паверх панчохаў, пры нашэнні ботаў. Існавалі летнія і зімовыя. У сучасным беларускім войску пры нашэнні высокіх чаравікаў заменяны на шкарпэткі.

**АРМАЦЮРА** – ( ад лац. Armatura – узбраенне, рыштунак ) – металёвы, гафтавы ці намаляваны знак па роду войскаў альбо службе на каўняры, каўняровых нашыўках, наплечніках і інш. Яшчэ ў ВКЛ (XVIII ст.) А. напрыклад бамбардзіраў была запаленая бомба, сапёраў – скрыжаваная сякера з рыдлёўкаю. У сучасным бела-



рускім войску існуюць А. савецкага ўзору.

**АСНАДА** – уніформа з рыштункам.

**АТОК** – частка галаўнога ўбору, які непасрэдна аблягае, атачае галаву. На фуражцы БВК А. быў каляровым: чорны – штабная і тэхнічныя падраздзелы, шэры – пяхота, блакітны – конніца. У сучасным беларускім войску А. колеру ўніформы.

**АЧКУР** – вяровачка замест дзяжкі дзеля падтрымання нагавіцаў. У сучасным войску дзеля гэтых мэтаў выкарыстоўваецца адмысловая паясная дзяга з брызенту альбо скуры.

—Б—

**БАНТ** – стужка, якая завязана ў выглядзе некалькіх перацягнутых пасярод петляў. Банты беларускіх нацыянальных колераў насілі ў засцібках грудзёвых кішэняў вайскоўцы-беларусы ў 1917 годзе. Форму банта мела і тканёвая цэшка на галаўных уборах жаўнераў і афіцэраў Войска ВКЛ (XVIII ст.)

**БАТФОРТЫ** – (ад франц. Bottes tortes) – шырокія боты з шырокім раструбам. Халявы маглі быць мяккімі або цвёрдымі, але з падкаленным выразам і брыльком угары, які закрываў і абараняў калена. Б. былі абуткам кавалерыйскіх частак.

**БЕРАГ** – абрэз тканіны, край вопраткі.

**БІКЛАГА** – пляшка, бляшаны посуд для вады. Здавён з'яўляецца часткаю палявога рыштунку.

**БІНОКЛЬ** – (ад франц. Binoculabre – два вокі) — аптычны прыбор для назірання за далёкімі аб'ектамі.

**БОТЫ** (чаботы) – высокі абутак, які ахоплівае галёнку (гл. халява). Ад самага пачатку вынаходніцтва Б. з'яўляюцца вайсковым абуткам. Боты бываюць юфцевыя, хромавыя, кірзавыя і інш. У беларускім войску боты носяць у асноўным толькі жаўнеры тэрміновай службы.

**БРЫДЖЫ** – (ад англ. Breeches) – вузкія ў каленях і шырокія ў бёдрах нагавіцы, якія запраўляюцца ў высокія боты. Ангельскі варыянт галіфэ.

**БРЫЖЫКІ** – складкі ці зборкі каўнера альбо рукавоў.

**БРЫЛЁК** – цвёрдая частка фуражкі, якая выступае па-над ілбом.

**БУДЗЁНАЎКА** – (ад прозвішча савецкага вайскавода Будзённага) чырвонаармейскі суконны шолам канічнай формы. Меў напатыльнік з даўгімі навушнікамі, якія ў звычайным стане зашпільваліся гузікамі па баках. Аўтар Б. вядомы расейскі мастак В.Васняцоў, які распрацаваў шолам і адмысловы шынель яшчэ для царскага войска. Б. была прынята на забяспячэнне ў Чырвоную Армію ў 1919-22 г.г. і праіснавала да 1940-43г.г. Тэрытарыяльныя часткі Беларускай вайсковай



вай акругі мелі яе з 1924 года ў якасці зімовага галаўнога ўбору.

**БЯЛІЗНА** – вырабы з тканіны для споднай вопраткі (гл.споднія). Акрамя цёплых споднік (нагавіцаў-кальсонаў і кашулі) ў камплект вайсковай бялізны ўваходзяць трусы і майка.

**БЯРЭТ** – (ад франц. Beret) – вольны мяккі капялюш купістай формы. Актыўнае распаўсюджванне Б. адбываецца пад-час II сусветнай вайны, асабліва ў брытанскім войску. Б. насілі беларусы-вайскоўцы з 5-й Красовай пяхотнай дывізіі "Зубры", якія разам з іншымі часткамі Польскіх Узброеных Сілаў на Захадзе ўваходзілі ў склад брытанскіх войскаў. Ва ўзброеных сілах амаль кожнаму роду войскаў адпавядае свой колер Б. Так сучаснае беларускае войска мае наступныя колеры Б.: памежная варта – зялёны, мабільныя войскі, камандас – блакітны ( савецкі спадчынны колер, агульнапрыняты паветрана-дэсантавы колер – чырвоны, які мелі напачатку і савецкія дэсантоўцы ), камуфляваны і крапавы – унутраныя войскі, вайсковая выведка, танкісты і інш. – чорны.

—В—

**ВАЛЁНКІ** – зімовыя боты збітыя з воўны (лямцу).В. у беларускім войску высокія шэрага колеру, на падэшве, падшытыя гумаю.

**ВАТОЎКА** – пікаваная уцяпленая куртка. Выкарыстоўваецца, як палявая або працоўная спецвопратка.

**ВЫЛОГІ** – дэталі мундзіра, якія розніліся колерам ад агульнага колеру мундзіра (каўнер, кляпы, манкеты, і інш.) Так у ВКЛ ( XVIII ст.) артылерысты мелі чорныя вылогі, гвардзейцы – блакітныя. Блакітныя манкеты і каўнер былі і ў кавалерыйскіх частках БВК.

—Г—

**ГАЗААХОЎНІК** – адмысловы прыбор, які апранаецца на галаву і твар дзеля аховы ад атрутных газаў і дыму.

**ГАЛОЎНЫ УБОР** – агульная назва рэчаў, якія служаць вопраткаю для галавы (аблавуха, бярэт, кепі, пілотка, фуражка і інш.)

**ГАЛІФЭ** – ( ад прозвішча франц. генэрала Galifet – Галіфэ) асаблівы крой нагавіцаў, прызначаных для кавалерыйскіх афіцэраў ( шырокія вышэй каленяў, вузкія ніжэй). Пазней Г. распаўсюдзіліся і ў іншых радах войскаў.

**ГАЛУН** – (ад франц. Qalon) – шчыльная стужка альбо тасьма шырынёй 5-60 мм з бамбуку, штучных нітак, ядвабу, часта з армаванаю ніткаю. Выкарыстоўваецца дзеля вырабу знакаў адрознення для форменнай вопраткі. Г. адзначалася афіцэрская годнасць (ранга) у БВК.





**ГАФТ** – узор, шыццё на наплечніках, атоках фу-



ражак, абшлагах, асабліва генеральскіх. Адзнакаю генералаў ВКЛ ( XVIII ст.) была задацістая хвалістая перавітая стужка на абшлагах.

**ГАЛЬШТУК** – (ад ням. Halstuch – шыйная хустка) – павязка з шырокай стужкі якая завязваецца вузлом або бантам вакол каўняра. Так, у войсках ВКЛ (XVIII ст.) чырвоную ядвабную шыйную хустку насілі жаўнеры, чорную – афіцэры. Сучасныя беларускія вайскоўцы маюць Г. з фабрычным вузлом "рэгат" і прышытымі гумовымі засцібкамі агульнага колеру хакі.

**ГАПЛІК** – металёвая зашпілька ў выглядзе кручка.

**ГЕТРЫ** – ( ад франц. Quetres) – частка вопраткі з тканіны ці скуры, якая пакрывае ногі ад ступні да каленяў і замяняе пры нашэнні чаравікаў халявы.

**ГОДНАСЦЬ ВАЙСКОВАЯ (РАНГА)** – ранга, якая персанальна надаецца кожнаму вайскоўцу, у адпаведнасці з ягонай вайсковай кваліфікацыяй, службовым станам, заслугамі, вайсковай і спецыяльнай падрыхтоўкаю а таксама прыналежнасцю да роду войскаў або службы. Яшчэ ў войску ВКЛ (XVIII ст.) Г.В. адзначалася залатымі альбо срэбнымі паскамі і зоркамі.

**ГРОТ** – жалезны ўтульчаты наканечнік дзіды, пікі, ланчы.

**ГУЗІК** – зашпілька для зашпільвання вопраткі ў выглядзе кружка. Малы прадмет купістай, пляскатай ці куляпадобнай формы. Акрамя зашпількі можа служыць, як аздоба ці азначэнне годнасці. На вайсковых Г. звычайна выціскаецца дзяржаўны герб альбо сімвал. У беларускім войску Г. колеру прыборнага металу і ў 1-й пал. 90-х г.г. мелі выяву "Пагоні", з 2-й пал. – пяціканцовай зоркі.

**ГУРЫНЯ** – ваўняны матуз для аблямоўкі, вырабу аксельбантаў і цямлякоў.

*(Працяг у наступным нумары)*



# “ Беларуская мова была, ёсць і будзе мовай нашай дзяржавы”

## Выступленне на VI з'ездзе ТБМ Міністра адукацыі Васіля Стражава

Стан і развіццё нацыянальнай сістэмы адукацыі абумоўлівае развіццё беларускай мовы. Паводле дадзеных на пачатак 1998-1999 навучальнага года кантынгент навучэнцаў на ўсіх узроўнях сістэмы адукацыі склаў амаль 2,5 млн. чалавек. У галіне працуе 500 тысяч выкладчыкаў. Такім чынам, амаль кожны трэці грамадзянін рэспублікі непасрэдна ўключаны ў дзяржаўную сістэму адукацыі. Адукацыя закранае інтарэсы практычна кожнай сям'і. Гэта гаворыць пра тую ролю, якую адыгрывае сістэма адукацыі, як у падрыхтоўцы падрастаючага пакалення да жыцця, так і ў выкананні важнай сацыяльнай функцыі кансалідацыі грамадства; пра тое, які негатыўны ўплыў на развіццё грамадства могуць аказаць памылковыя дзеянні ў сістэме адукацыі. З сярэдзіны 80-х гадоў наметілася тэндэнцыя адыходу ад прынцыпаў даступнасці сацыяльнай арыентацыі дзейнасці сістэмы адукацыі, якія не давалі магчымасці выконваць ролю стабілізацыйнага фактару. Дзяржава стала ўдзяляць менш увагі і самой школе, што прывяло да негатыўных тэндэнцый у яе развіцці. Сёння дзяржава ажыццяўляе прынцыпова і іншую палітыку. Гэта, а таксама аднаўленне механізму кіравання, умацаванне дысцыпліны дало магчымасць Міністэрству адукацыі накіраваць намаганні не толькі на забеспячэнне трывалага ўмацавання сістэмы адукацыі, але і на забеспячэнне яе далейшага развіцця. Асноўную ўвагу ў сваім выступленні ўдзялю пытанням агульнаадукацыйнай школы. Пачну з наступнага. Апошнія тры гады ва ўсіх школах рэспублікі забяспечана выкладанне ўсіх прадметаў. Канешне, гэта дасягнута і за кошт прыцягнення пенсіянераў і студэнтаў. У школах сёння працуе каля 8 тысяч настаўнікаў пенсійнага ўзросту і амаль адна тысяча студэнтаў. Але ж сёння Беларусь – адзіная з краін Садружнасці незалежных дзяржаў і Балтыі, дзе гэта праблема вырашана, ва ўсіх школах выкладаюцца ўсе вучэбныя прадметы. Школа захавала і свой кадравы патэнцыял. Сёння 80,7% работнікаў сістэмы народнай адукацыі – спецыялісты з вышэйшай адукацыяй. Гэта паказчык лепшы, чым у савецкі час. У параўнанні з 1993 годам колькасць педагогаў, якія маюць толькі агульную сярэднюю адукацыю, скарацілася больш чым у два разы. І калі напрыклад, у 1994 годзе ў школе працавала 11.000 настаўнікаў беларускай мовы і літаратуры, то ў бягучым навучальным годзе іх стала ўжо 12.300, з іх – 91,7% з вышэйшай адукацыяй, прычым у гарадской мясцовасці іх колькасць павялічылася з 6.000 амаль да 7.000. Адной з асноўных прычын, якія ўскладняюць вырашэнне кадравых пытанняў у поўным аб'ёме, — гэта, зразумела, ўзровень аплаты працы настаўніка. Больш-менш стабілізуе сітуацыю толькі тое, што заработная плата настаўнікаў апошнія тры гады выплачваецца, у асноўным, своечасова. Але неабходнасць далейшых крокаў павелічэння аплаты працы настаўнікаў – відавочная. І такія крокі намечаны ў дзяржаўнай праграме настаўніка.

Стратэгічнай лініяй у развіцці матэрыяльна-тэхнічнай базы з'яўляецца курс на яе захаванне і ўдасканаленне. Гэта тлумачыцца не толькі эканамічнымі магчымасцямі дзяржавы, але і дэмаграфічнай сітуацыяй, якая складваецца ў рэспубліцы. З 1999-2000 навучальнага года пачнецца значнае скарачэнне набору дзяцей у агульнаадукацыйную школу. Для прыкладу, калі ў мінулым годзе ў школу прыйшло 174 тысячы дзяцей, то сёлета іх будзе каля 120 тысяч, а ў наступным годзе – толькі 110 тысяч.

У 2010-2011 навучальным годзе агульная колькасць вучняў агульнаадукацыйнай школе паменшыцца на 400 тысяч і складзе толькі 73 % ад колькасці вучняў сёлетняга навучальнага года. Пасля распаду СССР Рэспубліка Беларусь аказалася ў крайне складанай сітуацыі, паколькі каля 80 % патрэб агульнаадукацыйнай школы краіны ў навучальнай літаратуры забяспечвалася за кошт паставак з Масквы. У рэспубліцы выдаваліся толькі падручнікі і навучальныя дапаможнікі па гісторыі Беларусі, беларускай мове і літаратуры. Падручнікі для школ з беларускай мовай навучання з'яўляліся перакладам падручнікаў напісаных на рускай мове. Было прынята рашэнне аб арганізацыі ў рэспубліцы свайго навучальнага кнігавыдання. На сёння выдадзена каля 800 найменняў падручнікаў, навучальных дапаможнікаў для агульнаадукацыйнай школы, у тым ліку – 450 новых. Пачатковая школа ў мінулым навучальным годзе завяршыла пераход на новы змест адукацыі. Распрацаваны і ўведзены новыя праграмы, навучальна-метадычныя комплексы. Практычна па ўсіх навучальных прадметах пачатковая школа забяспечана падрыхтаванымі і выдадзенымі ў Беларусі падручнікамі. Сёння ў ёй выкарыстоўваецца 236 найменняў падручнікаў і навучальных дапаможнікаў, у тым ліку – 204 новых. Канешне, трэба згадзіцца з многімі крытычнымі заўвагамі, якія выказваюць настаўнікі па змесце і афармленні навучальнай літаратуры. Некаторыя падручнікі напісаны цяжкай мовай, недастаткова распрацаваны метадычны апарат. І тут трэба будзе яшчэ многае зрабіць. Але ёсць і дасягненні. У рэспубліцы створаны арыгінальны навучальна-метадычны комплекс па матэматыцы, які пабудаваны па прынцыпах развіццёвага навучання. Гэты комплекс спецыялісты лічаць адным з лепшых у СНД (шум у зале). Таксама я хацеў бы сказаць вам, што ў нашай рэспубліцы ёсць прынцыпова новы падручнік – Буквар, створаны сябрам Саюза пісьменнікаў Клышкам, які адрозніваец-ца ад усіх ство-раных раней не толькі ў Рэспубліцы Беларусь, але і за мяжой. Структура падручніка зусім іншая, нетрадыцыйная. Навучанне дзяцей грамаце па сістэме Клышкі пачынаецца не з вывучэння галосных, а з гучных гукаў. У рэспубліцы праведзена значная работа (шум у зале) па стварэнні і выданні новага комплексу навучальных карт. У той жа час вырашыць праблему навучальнай перагрузкі вучня ў рамках 11-гадовай школы не ўдаецца. Гэтым у многім тлумачацца існыя праблемы з якасцю падрыхтоўкі вучняў, аховы іх здароўя. У сувязі з гэтым з мінулага года ў рэспубліцы пачалася рэформа (шум, заляпванне) агульнаадукацыйнай школы. Першым крокам на шляху далейшага ўдасканалення стала вяртанне ў школу шасцігодак. Навучанне дзяцей у школе з шасцігадовага ўзросту пачалося ў 1978 годзе. Школьная рэформа ў СССР 1984 года ўвяла паўсюднае навучанне дзяцей у рамках 11-гадовай школы, у якой 4-гадовая пачатковая школа была разлічана на навучэнне з 6-гадовага ўзросту. У рэспубліцы ўжо 1987 годзе 93% дзяцей пачыналі навучанне з шасці гадоў. Пасля па многіх прычынах гэты працэнт пачаў зніжацца. Гэта было выклікана, як павелічэннем кантынгенту дзяцей школьнага ўзросту ў пачатку 90-х гадоў, так і стратай кантролю за сітуацыяй з боку, дзяржавы, незадаволенасцю бацькоў умовамі навучання і распаўсюджаным уяўленнем памылковым,— што праграма першага класа разлічана на сямігодак. У выніку колькасць шасцігодак, якія паступалі ў школу, у 1997 –98 навучальным годзе знізілася да 40%. У 1998 годзе ўзнікла аб'ектыўная магчымасць аднавіць навучанне шасцігодак у поўным аб'ёме і стварыць для іх адны з лепшых у Еўропе – падкрэсліваю – умовы навучання. Гэта стала рэальным таму, што была захавана навучальна-матэрыяльная база дашкольных устаноў і сацыяльная падтрымка бацькоў. Сёння яны плацяць за знаходжанне дзіцяці ў дзіцячым садку толькі 10,5% ад агульнай сумы выдаткаў. Калі на Беларусі дашкольныя ўстановы сёння наведваюць 73% дзяцей, то ў Расеі толькі 50%, на Украіне – 30, а ў астатніх постсавецкіх рэспубліках меней за 20%. Гэта і ёсць існая сацыяльная дапамога з боку дзяржавы нашым дзецям. У 1998-99 навучальным годзе ў школу прыйшлі 93% дзяцей шасцігадовага ўзросту. З іх у гарадах і дзіцячых садках вучыцца 70%. У сельскай мясцовасці дзіцячыя дашкольныя ўстановы адсутнічаюць. У школах для шасцігодак уводзіцца група падоўжанага дня. Першы крок па шляху рэфармавання школы можна сказаць, быў удалым. У гэтай сувязі неабходна падкрэсліць вялікую ролю кіраўніка нашай дзяржавы (шум), бо менавіта яго падтрымка і прынятыя ім рашэнні зрабілі неабходныя ўмовы для дасягнення гэтага выніку, які патрэбен – павінен вам падкрэсліць – нашым дзецям. Праз тры гады, з 2002-2003 навучальнага года пачнецца наступны пераход базавай школы на 10-гадовы абавязковы тэрмін навучання, на новы змест адукацыі. І тыя, хто паступіў у школу ў 1998-99 навучальным годзе могуць атрымаць поўную сярэднюю адукацыю ў рамках 12-гадовай школы. У савецкай школе ўжо прымалася рашэнне аб увядзенні абавязковай 10- гадовай адукацыі, але, як вядома, гэтае рашэнне у канчатковым выніку аказалася нерэалізаваным. Сёння мы вяртаемся да вырашэння гэтага пытання, але ў лепшым падыходзе. З гэтага году пачынаецца новы этап у развіцці прафесійнай тэхнічнай школы, пасутнасці – яе рэформа, якая разлічана на 7-10 гадоў. На працягу гэтага часу існуючым сёння прафтэхвучылішчы, вышэйшыя прафесійныя вучылішчы будуць паступова ператвораны ў прафесійныя ліцэі і прафесійна-тэхнічныя каледжы. Аналагічныя тэндэнцыі будуць мець месца і ў сістэме сярэдняй спецыяльнай адукацыі. Увогуле ж развіццё сістэмы адукацыі будзе вызначацца канцэпцыяй развіцця, якая была зацверджана некалькі дзён таму урадам рэспублікі.



Магчымасці, якімі валодае наша школа, пераконваюць у тым, што ў Рэспубліцы Беларусь яна можа і павінна быць лепшай у СНД і адной з лепшых у Еўропе. Мы ўжо змаглі (шум) раней дасягнуць гэтага ў 60-я гады ў СССР. Як паказвае досвед, важным фактарам дасягнення гэтай мэты ёсць не толькі аб'ёмы выдзяляемых грошай, але разумнае іх выкарыстанне, правільнае выстройванне стратэгіі і тактыкі развіцця школ, а галоўнае – прыярытэтная ўвага дзяржавы да школы.

Паважаныя калегі, дазвольце таксама зараз выкласці і стаўленне Міністэрства адукацыі і сваё асабістае да ролі і месца беларускай мовы ў нацыянальнай сістэме адукацыі. Я ўмысна раблю гэта напрыканцы свайго выступлення, таму што яшчэ раз падкрэслю непарушную сувязь паміж станам і развіццём сістэмы адукацыі і развіццём дзяржаўнай мовы. Я не буду прыводзіць лічбы, якія датычацца навучэнцаў і школы, адну зраблю толькі заўвагу – сёння 30% дзяцей навучаюцца на беларускай мове. Калі рабіць вывады, абапіраючыся толькі на абмежаваны шэраг лічбаў, то можна не ўбачыць рэальныя зрухі, якія, урэшце рэшт з'яўляюцца вызначальнымі для руху наперад. Магчыма, ужо не памятаюць што ў Менску 30 гадоў таму 90% школьнікаў наогул не вывучалі беларускую мову, і калі ў 1988-89 навучальным годзе у школах з рускай мовай навукчання на вывучэнне беларускай мовы і літаратуры было адведзена штотыднёва 31 гадзіна, то зараз ужо 43 гадзіны, гэта значыць, павялічэнне амаль што на 40%, адпаведна ў школах з беларускай мовай навучання з 57 да 65 гадзін. Падручнікі па гісторыі Беларусі, геаграфіі Беларусі, музыцы, выяўленчым мастацтве, працоўным навучанні і чарчэнні выдаюцца толькі на беларускай мове. Гэта значыць, што прысутнасць беларускай мовы ў школах з рускай мовай навучання значна павышаецца. Думаю, калі мы будзем ісці такім шляхам адносна арганізацыі навучальнага працэсу ў рускамоўных школах, якія , я хацеў падкрэсліць, з'яўляюцца часткай нашай нацыянальнай сістэмы адукацыі, то пытанне аб тым, ці ўсе юныя грамадзяне Беларусі ведаюць беларускую мову на належным узроўні, — будзе вырашана станоўча (шум). Зразумела, нам неабходна пашырыць і колькасць беларускамоўных школ і беларускамоўных класаў. Думаю трэба будзе ўнесці карэктывы ў існыя нарматывы каб магчыма было адкрываць беларускамоўныя класы у школе, калі там і няма пэўнай колькасці вучняў. Міністэрства таксама імкнулася і імкнецца да таго, каб кожны, хто атрымаў педагагічную адукацыю ці ў педвучылішчах, ці ў ВНУ свабодна валодаў дзвюма дзяржаўнымі мовамі і мог выкладаць на любой з іх. Лічу мэтазгодным у сённяшніх канкрэтных умовах стану грамадства ісці па шляху стварэння беларускіх ВНУ. Дадам да гэтага, што калі б менавіта такім шляхам пайшлі ў дачыненні да вышэйшай школы у пачатку 90-х гадоў, цяпер была б зусім іншая сітуацыя ў ВНУ. Можна яшчэ прапанаваць шэраг канкрэтных мер, якія зусім не выглядаюць рэвалюцыйнымі, але здзяйсненне якіх будзе весці да павялічэння ролі беларускай мовы ў сістэме адукацыі і грамадстве. Менавіта такім чынам, крок за крокам, паступова і паслядоўна, вылічальна і планамерна можна ісці ўперад і дасягаць вынікаў. Вы можаце, зразумела, задаць пытанне: а чаму ўсё гэта толькі прапаноўваецца, а не робіцца? Адказ відавочны і просты. На ўсё патрэбны умовы – і фінансавыя, і матэрыяльныя, і сацыяльныя, і іншыя. Адзін толькі прыклад. Менавіта дэмаграфічная сітуацыя дае падставы для скарачэння колькасці навучэнцаў у класе. Раней гэта было немагчыма не толькі па прычынах фінансавых, а па прычыне адсутнасці памяшканняў. Паважаныя калегі, у нас ёсць усе падставы для упэўненасці ў тым, што беларуская мова была, ёсць і будзе мовай нашай дзяржавы, і роля яе будзе ў нашай дзяржаве і грамадстве паступова павялічвацца.



№ 20(405) 19 ТРАЎНЯ 1999 г. Наша слова

Валянцін Грыцкевіч (Санкт-Пецярбург)

# ПРАБЛЕМЫ БЕЛАРУСКІХ ДЫЯСПАРАЛЬНЫХ СУПОЛАК У РАСЕІ

*(Заканчэнне. Пачатак у папярэднім нумары).*

Толькі тое, што я сказаў пра становішча беларускай мовы на Беларусі, сведчыць аб тым, што зацікаўленых у адраджэнні беларушчыны сяброў беларускіх суполак Расеі не можа не непакоіць імкненне пэўных колаў паскорыць нібыта інтэграцыю Беларусі з Расеяй, а на самой справе звычайную інкарпарацыю ці паглынанне большай Расеяй меншай Беларусі. Калі гэта называюць па прыкладзе аб'яднання у 1937 г. Германіі і Аўстрыі "аншлюсам", робяць прынцыповую памылку: у Аўстрыі і Нямеччыне гаварылі і гавораць адной мовай. А ў беларусаў і рускіх мовы розныя. Хутчэй гэта нагадала б прыяднанне Галандыі да Нямеччыны, або Сербіі да Балгарыі. Узнікаюць розныя "руска-беларускія брацтвы" ці рухі "Новы Саюз" (у Пецярбургу). Што ў такіх брацтвах ці саюзах няма ніякага зацікаўлення ў захаванні беларускай мовы ці культуры, дык сумніву ў гэтым не маю. Мы чуем заклікі аб аб'ядnanні, але канкрэтных пацверджанняў таму, што гэтая інтэграцыя дапаможа захаванню беларускай мовы і культуры, няма. Самае большае, што могуць пакінуць беларусам, дык гэта "Лявоніху" і вышываныя кашулі па прынцыпу: "Скачыце, беларусы сабе свае скокі і не лезце ў іншыя справы" (або як трапна гэта называў калісьці А.Стэповіч "культ "Лявоніхі і лапця").

Мы ведаем, што матэрыяльны дабрабыт нашага народа на Бацькаўшчыне пагоршыўся з-за ягонай занадтай даверлівасці ў свой час да лісліваых абяцанак і пустых словаў. Гэтая даверлівасць шмат у чым абавязана ягонай абыякавасці (у выніку прымусовай атэізацыі) да духоўнай спадчыны і Божага Слова, бо не прыслухаліся людзі да словаў Апостала: "Хай ніхто не зводзіць вас пустымі словамі, бо гэта прыходзіць гнеў Божы на сыноў бунтоўных. Дык жа не будзьце супольнікамі іхнымі" (Еф.5,6-7).

Ніхто з нас не супраць сувязяў Беларусі з Расеяй, але хто сказаў, што добрасуседскія адносіны магчымыя толькі ў адной дзяржаве? Той Саюз, да якога заклікаюць нас пэўныя палітыкі, згубны для беларускай мовы і культуры. Страта мовы–пагібель для нацыі.Страта самастойнасці – небяспека для існавання беларусаў, як самастойнай нацыі.

Згаданае гаротнае становішча беларускай мовы ў Беларусі ўсхвалявала дыяспаральную грамадскасць на II з'ездзе Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" ўлетку 1997 г. у Менску. Нагадаю, што згодна заяве ўдзельнікаў з'езду "... шматлікія факты сведчаць пра знішчэнне духоўнага патэнцыялу (беларускай – В.Г.) нацыі. У занядбаны стан прыходзіць нацыянальная мова і культура. Разбураецца створаны ў апошнія гады падмурак нацыянальнай адукацыі ў краіне. Знішчаюцца сродкі масавай інфармацыі, сістэма беларускага кнігадрукавання. Нішчацца матэрыяльная база культуры і адукацыі".

Вось чаму рады Маскоўскай і Пецярбургскай беларускіх суполак, якія працуюць ужо па дзесяць год кожная і вызначаюцца культурнай, выдавецкай, навуковай, грамадскай працай на полі распаўсюджвання ведаў пра Беларусь, вядомай за межамі двух расейскіх сталіц, вырашылі аб'яднаць намаганні па стварэнні Міжрэгіянальнага аб'яднання беларусаў Расеі.

Вось чаму мы стварылі 27 сакавіка 1999 г. гэты Звяз на ўмовах і прынцыпах: перадусім беларуская мова, беларуская культура, Беларусь, як Радзіма. Звяз павінен быць абавязкова непалітыч-ным, а культурным аб'яднаннем усіх тых, каму неабыякавы лёс беларускай мовы і культуры.

Звяз павінен ствараца з людзей і арганізацый незалежна ад іхняй палітычнай і канфесіяльнай арыентацыі.

Прапануецца ў Маскве з яе трывалымі традыцыямі беларускага культурнага, навуковага грамадскага жыцця беларусаў стварыць агульнарасейскі нацыянальна-культурны цэнтр. У ім павінна праводзіцца праца па каардынацыі культурнай і эканамічнай дзейнасці беларускіх суполак Расеі.

Такі цэнтр павінен уключыць у сябе Беларускую бібліятэку, трывала дзейную выставу беларускіх мастакоў і скульптараў, канцэртную залу для мастацкіх выступаў кампазітараў, артыстаў, творчых калектываў, тэатраў Беларусі і беларусаў Расеі, курсы навучання мове і гісторыі Беларусі, рэдакцыю беларускага тыднёвіка, гатэль для сяброў беларускіх суполак Расеі, а таксама культурна-асветніцкіх дэлегацый з Беларусі, кавярню з беларускай нацыянальнай кухняй.

Выражаю ўпэўненасць у тым, што правядзенне нашага з'езда дапаможа адкрыццю ў гарадах са значнаю колькасцю беларускага насельніцтва беларускамоўных школаў, як гэта робіцца з дапамогаю мясцовых уладаў у Летуве, Латвіі, Польшчы, а таксама стварэнню па прыкладу Польшчы і Летувы ў вядучых універсітэтах расейскіх гарадоў аддзяленняў па падрыхтоўцы беларусазнаўцаў.

Прысутныя тут могуць пачуць заклікі ісці на некаторыя іншыя пасяджэнні, якія прыкрываюцца назваю "беларускіх". Я б раіў кожнаму ўдзельніку дыяспаральных аб'яднанняў меркаваць не па словах, а па справах арганізатараў такіх пасяджэнняў, кіруючыся словамі Псалма I: "Шчаслівы чалавек, што не ходзе на раду бязбожных, не ўзыходзіць на шлях грэшнікаў і паміж насмешнікаў не засядае" (Пс.I.,1).

Я ўпэўнены таксама ў тым, што Звяз беларусаў Расеі будзе падтрымліваць кожныя сілы, якія спрыяюць не разбурэнню беларускай культуры, не знікненню беларускай мовы і беларускай нацыі з моўнай і этнічнай карты свету, не тлумленню нацыянальных сімвалаў, не атручванню розуму моладзі і дарослых чужой, а не сваёй нацыянальнай гісторыяй, а наадварот, адраджэнню беларускай мовы і культуры паўсюды – і ў Расеі, дзе мы жывём, і на нашай гістарычнай радзіме Беларусі, бо іншай нам з Вамі не дадзена. Калі мы страцім яе, мы страцім і саміх сябе.

Жыве Беларусь!

## Знаёмцеся: ТБМ імя Ф.Скарыны Віленскага Краю

Утворана ў траўні 1991 г.

Зарэгістравана ў Мінюсце Летувы.

З'яўляецца структурным падраздзяленнем ТБМ імя Ф.Скарыны Беларусі; калектыўным сябрам т-ва "Радзіма".

Рада ТБМ складаецца з 9 чал.

Старшыня – Гіль Юры, дэпутат Віленскага раёна.

Намеснік – Кенул Яўген

Мэта: адраджэнне, захаванне і развіццё беларушчыны, як у Летуве, так і ў Беларусі.

Нашы справы:

1) Створана бібліятэка "Крынічка";

2) Гісторыка-этнаграфічны музэй "Засцянковая хатка";

3) Адкрыты беларускі касцёл імя Св.Барталамэя ў Вільні;

4) Дзейнічае гурток па вывучэнню роднай мовы ў СШ № 32 г.Вільні;

5) Створана валейбольная каманда "Вілія (Нерыс)" у Вільні;

6) Арганізавана трыо "Парфенаўцы" (гармонік, скрыпка, бяроста);

7) Арганізаваны фамільна-сямейны ансамбль "Засценкаўцы";

8) У Віленскім раене названы вуліцы ў гонар нашых землякоў (Каліноўскі, Багушэвіч, Я.Купала, Сыракомля, А.Міцкевіч, Б.Тарашкевіч);

9) Выпускаецца сцянная газета "Голас душы і сэрца".

10) Пастаўлены 3 прыдарожныя крыжы.

11) Каплічка "Святая сям'я".

12) Створана беларуская секцыя пры Акцыі Выбарчай палякаў Летувы (мелі і маем сваіх дэпутатаў у мясцовыя органы ўлады Летувы).

*Старшыня ТБМ імя Ф.Скарыны Віленскага Краю, дэпутат Віленскага раёна 9.05.1999г. Ю.Гіль.*

**Запрашэнне**

**Таварыства беларускай мовы Віленскага краю запрашае прыняць удзел у святочнай імпрэзе"Каб помнілі і шанавалі Бога, сям'ю, мову, Бацькаўшчыну"**

Імпрэза адбудзецца ў суботу-нядзелю 22-23 траўня 1999 году на сядзібе гістарычна-этнаграфічнага музею "Засцянковая хатка" ў Вашунове Докшыцкага раёна Віцебскай вобласці.

Пачатак імпрэзы а 14.00.

У праграме:

22 траўня (субота)

- Святая імша ў Параф'янаўскім касцёле –14.00.
- Агляд музею ў Вашунове – 15.30.
- Асвячэнне каплічкі – 16.00.
- Абед — 17.00.
- Мастацкая частка. Выступленне этнаграфічнага ансамбля "Вярдане" з Летувы. Спартыўныя мерапрыемствы. Народныя гулянні – ад 17.00 да 22.00.

23 траўня (нядзеля)

- Экскурсія на мемарыял "Ходараўка" – 10.00.
- Экскурсія на возера Нарач.
- Паездка ў Гервяты ў Летувіскі культурна-асветны цэнтар (на зваротным шляху ў Летуву).

*Аргкамітэт* *Юры Гіль*

## Дарога ў храм Божы для беларусаў-віленчукоў аказалася вельмі цяжкай.

Адкрыццё каталіцкага касцёла на беларускай мове ў Вільні для ТБМ было адной з важнейшых задач у барацьбе за родную мову, за адраджэнне беларушчыны на Віленшчыне.

Гэты цяжкі крыж за беларускі касцёл і ўзяла на свае плечы Таварыства беларускай мовы і ксёндз Ян Шуткевіч (наш зямляк з Горадні).

Каталіцкая віленская курыя і епіскапат Летувы ў выніку нашых настойлівых просьбаў выдзеліў будынак касцёла на Зарэччы. Але там знаходзіліся майстэрні прадпрымальніка Навіцкаса, які не высяляўся з касцёла, бо меў моцныя "плечы" сярод чыноўнікаў гарадской улады.

Так пачалася барацьба за беларускі касцёл, дзе ўдзельнічалі вернікі розных нацыянальнасцяў (беларусы , палякі, летувісы), ды нават і другіх канфесій.

... Летась падчас Вялікоднага набажэнства ў Вастрабрамскай капліцы ксёндз Ян Шуткевіч першы раз звярнуўся да вернікаў на беларускай мове і ішла малітва перад абразом Маткі Божай Вастрабрамскай, дзе ўсе прасілі Заступніцу ў дапамозе ў барацьбе за беларускі касцёл. Гэтая барацьба ішла на ўсіх кірунках:

а) кожны дзень ля варот будынка касцёла св. Барталамэя на бруку у дождж і спякоту 4 (чатыры) месяцы адбываўся своеасаблівы пікет-малітва;

б) пісалі лісты у Сейм ЛР, сп. В.Ландсбергісу, дэпутатам і чыноўнікам усіх рангаў з просьбай і патрабаваннем, каб прадпрымальнік Навіцкас "выселіўся" з будынка касцёла;

в) каб засяродзіць увагу гэтаму пытанню задзейнічалі і сродкі масавай інфармацыі, у тым ліку газеты "Дружба" Віленскага раёна, газету "Рунь", газету "Эхо Літвы", "Nasza qazeta" і г. д.

г) двойчы хадзілі грамадой на "паклон" да віленскага біскупа;

д) двойчы маліліся перад абразом Маткі Боскай Вострабрамскай.

Праз 4 месяцы ўпартай барацьбы з Божай дапамогай нарэшце пытанне было вырашана: прадпрымальнік Навіцкас вызваліў будынак касцёла.

Пачалося сіламі вернікаў прывядзенне будынка і тэрыторыі ў боскі выгляд.

І нарэшце прышло Свята Надзеі – 30 жніўня 1998 г. – менавіта так можна назваць урачстасць, што адбылася ў гэтую нядзелю. А нагодаю для яе стала рэкансэкрацыя касцёла Святога Барталамея, якую правёў архібіскуп Віленскай архідыяцэзіі Аўдрыс Бачкіс.

Так упершыню ў Вільні за ўсе пасляваенныя дзесяцігодзі загучала слова Божае па-беларуску.

Сімвалічным здаецца сёння той факт, што касцёл святога Барталамея ў свой час узведзены пры старажытным полацкім шляху: у ХУ-ХУІІ стст. праз Зарэчча вялі галоўныя дарогі на Усход, у Полацак. Трэба дадаць, што зямлю пад адбудову касцёла амаль трыста гадоў таму назад ахвяраваў наш зямляк, землеўладальнік з Ашмянскага павету Я.Райскі.

... Касцёл св. Барталамэя ў Вільні быў пабудаваны ў І-й палове ХУІІ ст. айцамі - канонікамі ад пакуты. Гэта быў драўляны Храм Божы. Потым у 1788 г. замест яго быў вымураваны новы касцёл у класічным стылі архітэктарам Марцінам Кнакфусам. Падчас паўстання 1794 г. святыня была знішчана і толькі ў 1824 г. па праекту засл. архітэктара г.Вільні прафесара Караля Падчашынскага касцёл быў аднаўлены ў эклетычным стылі, а ў 1881 г. была дабудавана званіца. У апошні час тут капеланамі былі ксяндзы Садоўскі, Яленскі, Кратовіч. Трагічным для касцёла і яго прыхаджан быў дзень – 9 сакавіка 1949 года, калі бальшавіцкія ўлады Летувы закрылі касцёл. Алтар, абразы, арган, званы і г.д. гэтага касцёла былі перавезены ў касцёл Віленскага раёна – Нямеччыне і Рэшэ...

Цяпер толькі муры гэтай Святыні, кранутыя часам, але ўсё такія ж узнёслыя, могуць пацвердзіць тыя гістарычныя факты, у якіх сёння нам хочацца бачыць новы сімвалічны змест. І усё ж самае важнае, што тут, у Вільні, перамагла вера, перамог Ісус Хрыстос, калі ў свой час Ён павыганяў "мянялаў" з Дому Свайго Айца.

Падсумоўваючы тут барацьбу за беларускуі касцёл у Вільні, патрэбна сказаць, што гэтая барацьба адбывалася пад сцягам ТБМ імя Ф.Скарыны Віленскага Краю.

На вялікі жаль, некаторыя "гарлапаны" – беларусы з другіх грамадскіх арганізацый зусім ухіліліся ад гэтай барацьбы за касцёл, дый і цяпер не ходзяць у Храм Божы і гэта не дзіва, бо панаванне "воинствующего атеизма" бальшавікоў шмат нашкодзіла нашым людзям.

Але жыццё ідзе, касцёл адбудоўваецца, ствараецца больш сталая каталіцкая грамада беларусаў. Ужо прыходзяць дзеткі з беларускай школы г.Вільні, якія хораша спяваюць на хорах рэлігійныя песні на роднай мове. Заўсёды гучыць рэлігійны гімн "Магутны Божа" у выкананні шчырага беларуса Андруся Старавойтава. Прыкладам нам усім беларусам-віленчукам з'яўляецца служэнне Богу ў гэтым касцёле беларускай сям'і Грушэўскіх. Хведар Грушэўскі (ён цяпер закрэстыян), яго жонка і дачка – сапраўдныя хрысціяне і патрыёты ўсяго нашага, беларускага. Яны паважаныя людзі сярод вернікаў гэтага касцёла. Гэта ўсё цешыць і радуе, што з намі Бог, што ёсць сярод беларусаў Віленшчыны шчырыя патрыёты, барацьбіты за наша нацыянальнае і духоўнае Адраджэнне.

Наперадзе яшчэ шмат працы па рэстаўрацыі касцёла, бо яго аблічча за гэтага паўвека бязбожнага "кватараванння" па-варварску знішчана і апаганена.

Можна знойдуцца фундатары, як у Беларусі і Летуве, ці за мяжой, якія дапамогуць нашай Святыні ў адраджэнні. Патрэбна спадзявацца і верыць у гэта, бо вера заўсёды перамагае.

А галоўнае для ўсіх нас тое, што цяпер для католікаў-беларусаў Вільні ёсць магчымасць слухаць слова Божае на сваёй роднай мове.

Дарагія суайчыннікі! Прыходзьце у касцёл Святога Барталамея, дзе кожную нядзелю а 11.00 гадзіне багаслужэнні праходзяць на беларускай мове.

Замаўляйце імшы за супакой душы памерлых, бярыце шлюб, хрысціце дзяцей, маліце Бога аб здароўі ў касцёле Св.Барталамея – адзіным касцёле ў Летуве, дзе служба адпраўляецца на роднай мове (г.Вільня, Ужуне (Зарэчча,17). Ды паможа нам Бог!

*9.05.1999г. Юры Гіль.*

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

***Заснавальнік:***
ТБМ імя Францішка Скарыны.
***Пасведчанне аб рэгістрацыі:***
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
***Адрас рэдакцыі:***
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
***Адрас для паштовых адпраўленняў:***
231300, г. Ліда-2, п/с 7.
***E-mail:*** ns@lida1.lingvo.grodno.by

***Рэдакцыйная калегія:***
Людміла Дзіцэвіч, Алесь Гурыновіч, Леакадзія Мілаш, Язэп Палубятка, Алесь Петрашкевіч, Лілея Сазанавец, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

***Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі***

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Кошт па дамове.Газета падпісана да друку 17. 05. 99 г.
Наклад 4500 асобнікаў. Замова № 1253
***Падпісны індэкс:*** 63865.
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 20 000 руб., 3 мес.- 60 000 руб.
***Кошт у розніцу:*** 10 000 руб.